

**Шукае моладзь карані**

2 стар.




**Судовыя працэсы па матэрыялах нашай газеты**

3 стар.



**Генадзь Бураўкін – – госць Глыбокага і Пастаў**

4 стар.

ПЛЮС TV

ТЫДНЁВІК ПАЎНОЧНА-ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

БРАСЛАЎ, ГЛЫБОКАЕ, ДОКШЫЦЫ, МЁРЫ, ПАСТАВЫ, УШАЧЫ, ШАРКОЎШЧЫНА

# Вольнае Глыбокае

http://vglybokaye.promedia.minsk.by

Выдаецца са снежня 1994 года | № 21(112) 23--29 траўня 2002 года | Кошт па дамове

## Пагранічныя войскі Рэспублікі Беларусь святкуюць свой дзень



Пагранічныя войскі сталі для нас блізкімі ў нядаўнім часе. Тады, калі памежнай дзяржавай Беларусі паўстала Літва. Сёння Пастаўскі і Браслаўскі раёны нашага рэгіёна нават маюць свае памежныя зоны, куды патрапіць без спецыяльнага запрашэння афіцыйна нельга. Гэта прыносіць людзям пэўныя нязручнасці, нямала з іх боку нараканняў, Але мяжа --ёсць мяжа. І тым большая павага сёння да пагранічнікаў, якія абараняюць не толькі палітычныя, але эканамічныя інтарэсы дзяржавы. Уласна кажучы, дзяржава і пачынаецца менавіта з мяжы, з таго рубяжа, які аддзяляе яе ад іншых краін і іншых інтарэсаў.

**Надвор`е*** Агляд складзены па дадзеных 20/05/2002 0:00 GMT

| | 23/5 Чц | 24/5 Пт | 25/5 Сб | 26/5 Нд | 27/5 Пн | 28/5 Ат | 29/5 Ср | 30/5 Чц |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Тэмпература: з 14 гадзін | +24 | +27 | +22 | +23 | +25 | +28 | +28 | +27 |
| з 2 гадзін | +12 | +20 | +14 | +14 | +17 | +20 | +20 | +15 |
| Ціск, мм рт.сл | 747 | 746 | 745 | 748 | 747 | 745 | 746 | 747 |
| Тэндэнцыя ціску | -3 | 0 | -1 | +3 | -1 | -1 | -1 | 0 |
| Накірунак ветру | Пн-У | Пд | Зах | Пд-З | Пд-У | Усх | Усх | Пд-У |
| Хуткасць ветру, м/с | 0 | 4 | 5 | 1 | 3 | 2 | 4 | 5 |

© Gismeteo.Ru

Заўвага: прагноз надвор'я ў нашым рэгіёне пададзены ў прывязцы да г. Полацка

## НАВІНЫ

Дзяржава адсудзіла ў Беларускага саюза моладзі будынак побач з рэзідэнцыяй прэзідэнта. Беларускі саюз моладзі атрымаў у спадчыну ад беларускага камсамола офісны будынак па вул.К.Маркса, 40 у Мінску. Судовае рашэнне было вынесена на падставе наступных аргументаў Міністэрства эканомікі: будынак узведзены згодна з пастановай Кампартыі, грошы на гэта выдаткаваны Саветам Міністраў. А таму дом па К.Маркса, 40 належыць дзяржаве. Вышэйшы гаспадарчы суд абавязаў БСМ аплаціць судовы іск 14 млн. рублёў.

Міністэрства фінансаў пазычае грошы з бюджэта на пагашэнне крэдытаў, узятых беларускімі прадпрыемствамі пад дзяржаўныя гарантыі. На гэтыя мэты ўзята амаль 250 млн. рублёў. Крэдыты атрымаюць некалькі льноперапрацоўчых прадпрыемстваў. Перапрацоўка льну ў беларускіх варунках застаецца стратнай вытворчасцю.

На тэрыторыі свабоднай эканамічнай зоны "Віцебск", магчыма, будуць варыць расійскае піва. Кампанія "Ачакава" мае намер укласці каля $10 млн. у будаўніцтва бровару на тэрыторыі СЭЗ і ў перапрафіляванне Віцебскага піўнога завода ў прадпрыемства па вытворчасці безалкагольных напояў. Віцебскія ўлады маюць зацікаўленне інвестыцыямі, аднак справу тармозіць нявырашанасць з прыходам на беларускі рынак іншага буйнога расійскага бровару - "Балтыкі".

Паўторны разгляд справы былога партызана - 79-гадовага грамадзяніна Расіі Васілія Конанава пачаўся ў Латгальскім акруговым судзе ў Латвіі. Увосень 1999 года Конанава асудзілі на пяць гадоў за ваенныя злачынствы супраць латвійскага народа ў часе другой сусветнай вайны. У лютым 2001 года справу былога партызана адправілі на даследванне. Конанава вінавацяць за расстрэл у 1944 годзе мірных жыхароў пасёлка Малыя Бады.

Увядзенне еўра падштурхнула еўрапейцаў да больш актыўнай куплі золата. Попыт на залатыя манеты ў Еўропе ўзрос на 69%. У першым квартале 2002 года найбольшы попыт быў у Вялікабрытаніі: за 3 месяцы там прададзена 18 тон золата - найперш, 9- і 18-каратныя злiткі.

Кітай заявіў пра планы стварэння на Месяцы сталай базы для даследванняў прыродных багаццяў спадарожніка Зямлі. Дагэтуль у космасе не было ніводнага кітайца, аднак у тры наступныя гады Кітай мае намер накіраваць у палёт касмічны карабель. Сёлета ў сакавіку Кітай правёў паспяховы запуск беспілотнага карабля. Цяпер навучанне праходзяць 12 кітайскіх касманаўтаў.

**Шаноўныя чытачы,**

што такое інфляцыя, вы ведаеце на ўласным вопыце--кожны дзень наведваючы краму. Цэны там падрастаюць нібы незаўважна, але няўхільна. Не абыходзіць гэта з`ява і нашу газету. Растуць цэны на ўсе паслугі, якія аказваюць нам друкарня, пошта. Таму, як гэта ні скрушна, але вымушаны паведаміць вам, што з **1 ліпеня** ўзрасце кошт падпіскі на нашу газету. Цяпер на месяц ён будзе складаць **1300** рублёў, на квартал -- **3900**. Спадзяёмся, што гэта павышэнне кошту падпіскі не стане прычынай таго, што вы адмовіцеся ад нашай газеты. А «Вольнае Глыбокае» будзе старацца ад нумара да нумара быць цікавей і карысней для вас.

**Нагадваем, што падпісны індэкс на газету «Вольнае Глыбокае» --63668.**

**На газету можна падпісацца таксама і на Пастаўшчыне.**

# Хто будзе выбіраць мясцовую ўладу

**Праект канцэпцыі рэформы сістэмы мясцовага самакіравання, які паступіў у Палату прадстаўнікоў, не прадугледжвае прынцыпу выбарнасці кіраўнікоў мясцовай улады. Гэта, бадай, самая адметная рыса дакумента, падрыхтаванага спецыялістамі Цэнтра законапраектнай дзейнасці пры Прэзідэнце і Міністэрства юстыцыі.**

Рэфармаваць мясцовую ўладу плануецца трыма этапамі. Першы разлічаны на 2002 і 2003 гады, уключае ў сябе канчатковую падрыхтоўку канцэпцыі і яе зацвярджэнне кіраўніком дзяржавы.

Другі, аж да 2015 года, прадугледжвае дэцэнтралізацыю дзяржаўнай улады, перадачу часткі функцый цэнтра і абласцей сельскім, пасялковым і раённым саветам. На трэцім этапе сістэму мясцовага самакіравання хочуць вылучыць з сістэмы дзяржаўнага кіравання. Акрамя таго, мяркуецца стварыць асацыяцыю мясцовых уладаў.

Аднак пры гэтым канцэпцыя прадугледжвае стварэнне і так званага дзяржаўнага каардынацыйнага органа, адказнага за мясцовае самакіраванне. Дарэчы, гэтыя функцыі могуць быць адданыя прэзідэнту, ураду альбо Савету рэспублікі.

Пракаментаваць канцэпцыю я папрасіў дэпутата Вярхоўнага Савета 13-га скліканні Вячаслава Герасіменку, які займаўся пытаннямі самакіравання. Гаворыць спадар Герасіменка:

"Яшчэ ў лютым 1996 года я асабіста размаўляў са старшынёй камісіі Вярхоўнага Савета ў справах дзяржаўнага будаўніцтва і самакіравання Уладзімірам Савічавым. І мы з ім пагадзіліся, што неабходна пашыраць функцыі мясцовага самакіравання і найперш ліквідаваць "вертыкаль" улады. Савічаў даў заданне свайму намесніку Навасяду, каб той распрацаваў новы праект закона аб самакіраванні.

Восенню такі праект закона быў, і планавалася, што на восеньскай сесіі ён будзе прыняты з мэтай, каб ужо вясной 1997 года правесці прамыя, тайныя, на альтэрнатыўнай аснове выбары кіраўнікоў мясцовай улады. Але ж увосень 1996 года, як вядома, адбыліся сумныя падзеі — разгром Вярхоўнага Савета. І як бачым, да гэтага часу пытанне "вісіць у паветры".

Наколькі мне вядома, у законапраекце, што знаходзіцца ў "палатцы", адсутнічае паняцце выбарнасці старшынь мясцовых уладаў. Гэта значыць, што застаецца тая ж самая "вертыкаль". Паколькі існуе "вертыкаль", значыць, любая размова пра пашырэнне функцый мясцовай улады ёсць ні што іншае, як звычайная баўбатня. А што значыць аж да 2015 года? Адна справа, калі трэба рэфармаваць эканоміку. А тут? Проста пашырыць функцыі мясцовай улады. Дык для гэтага трэба 15 гадоў?"

І яшчэ адна рэч выклікае пытанні да распрацоўшчыкаў новай канцэпцыі. Эканамічная незалежнасць, якую мяркуюць даць мясцовым органам кіравання і самакіравання, вельмі нязначная.

На думку экспертаў, рэальнае мясцовае кіраванне, а тым больш самакіраванне, немагчымае без зменаў Канстытуцыі.

*Уладзімір Глод*

**1500 дзяцей у Беларусі могуць памерці з-за недагляду чыноўнікаў. Дзецям, што хварэюць на фенілкетанурыю (ПКУ), тэрмінова неабходны медыцынскі прэпарат – безбялковы гідралізат (SHS). Дадзены прэпарат, атрыманы сёлета на пачатку красавіка, у дадзены момант ляжыць на складзе аб'яднання "Фармацыя", хаця дзецям ён быў патрэбны яшчэ ў сакавіку.**

# Хворыя дзеці просяцьдапамогі

Лекі не могуць выдаць у сувязі са змяненнем кода прэпарата. Ён быў пераведзены ў ранг харчовых дабавак, на якія маецца мытная пошліна 5% і падатак на дабаўленую вартасць 20%. Мытня гатовая аддаць прэпарат, пры ўмове гарантаванай аплаты, але такую гарантыю ніхто даць не можа. У Міністэрства аховы здароўя дадзены артыкул выдаткаў адсутнічае, хаця яны былі загадзя папярэджаныя мытняй, і прэпарат замаўляўся непасрэдна міністэрствам.

Бацькамі хворых дзяцей былі пройдзеныя розныя інстанцыі: Мытны камітэт, Міністэрства аховы здароўя, Адміністрацыя прэзідэнта. Дапамагчы ніхто не можа, спасылаючыся на адсутнасць грошай. Аднак, прамаруджванне вядзе да незваротных працэсаў. Калі хворыя дзеці не атрымаюць лекі, яны паступова стануць інвалідамі, а праз некаторы час могуць і памерці.

**Кантактны тэлефон у Мінску: (017) 239-78-97 (Рагілевіч Наталля Міхайлаўна, маці аднаго з хворых дзяцей).**

Даведка. Фенілкетанурыя – прыроджанае парушэнне абмену рэчываў, што перадаецца па спадчыннасці. Прычынай узнікнення хваробы служыць недастатковая колькасць фермента фенілаланінгідраксілазы. Сімптомы хваробы праяўляюцца ў раннім дзяцінстве: ваніты, сып на скуры, раздражнёнасць, затхлы ("мышыны") пах цела, абумоўлены анамальным складам мачы і поту. Сімптомы з боку цэнтральнай нервовай сістэмы могуць быць розныя, звычайна гэта навязлівыя рухі, падзёргванні, курчы. Затрымка псіхічнага развіцця, што пры адсутнасці лячэння непазбежна.

*BARSNEWS*

# Шукае моладзь карані



**На здымку:** Мосар пакінуў незабыўнае ўражанне. Цудоўны касцёл Св. Ганны з "версальскім" паркам, дагледжаная кальварыя. Ксёндз Ёзас Булька сустрэў мінчан гасцінна і распавёў аб бліжэйшых планах парафіі. Усіх уразіў антыалкагольны музей, сама атмасфера, якая пануе ў гэтым куточку Беларусі. А ў планах прэлата яшчэ большыя пераўтварэнні. І не столькі ў плане матэрыяльнай культуры, колькі ў плане духоўным. Ксёндз Булька запрасіў прысутных на ўрачыстасць святога Яна, якое, па яго словах пройдзе ў Мосары вельмі прыгожа, гожа і абавязкова без усіх тых звычак, да якіх прыхінуліся ў апошні час людзі. Будуць дзяўчаты шукаць папараць-кветку, будзе ўсё па старых і хрысціянскіх звычаях і абрадах.

**У нядзелю, 19 траўня, адбылася запланаваная вандроўка маладзёжнага грамадскага аб'яднання "Гісторыка" на Глыбоччыну. Госці з Мінска наведалі глыбоцкі касцёл Св. Тройцы, Кафедральны сабор, цвінтар Копцеўка, дзе знаходзіцца калона ў гонар Канстытуцыі Рэчы Паспалітай 3 траўня 1791 г., мемарыяльны комплекс Барок, касцёл Св. Ганны ў Мосары, Задарожскі касцёл, дзе хрышчаны адзін з фундаменталістаў беларускага Адраджэння Вацлаў Ластоўскі, а таксама радзіму бацькі беларускага тэатра Ігната Буйніцкага, Празарокі. Па просьбе Ірыны Кашталян, прэзідэнта "Гісторыкі", гэтую вандроўку па Глыбоччыне дапамог арганізаваць краязнаўца Уладзімір Скрабатун.**



**На здымку:** бадай лепшым завяршэннем візіта ў Празарокі былі гукі валынкі ў музеі І. Буйніцкага. Мелодыю выканаў пан Ськігайла Палянэцкі (так ён прадставіўся).

**Ірына Кашталян,** прэзідэнт маладзёжнага грамадскага аб'яднання «Гісторыка»: Мы ехалі з Мінска з надзеяй знайсці ў гэтым кутку Беларусі новыя сведчанні і сляды нашай слаўнай мінуўшчыны. У нашых шэрагах не толькі студэнты і не толькі з Мінска, але і з іншых куткоў Беларусі, людзі розных прафесій і адукацыі. Заахвоціць моладзь у даследваннях і прапагандзе гісторыі Бацькаўшчыны -- бадай што галоўная наша мэта. І тут, на Глыбоччыне, мы, можна сказаць, знайшлі тое, што шукалі. Гэта мясціны, якія захоўваюць самыя старажытныя карані нашага народа, тут увасабляецца ў помніках, у самой прыродзе, яе азёрах, рэках, урочышчах наш пачатак. Ну, а пра помнікі мунументальныя і гаварыць няма чаго. Гэта -- неацэнная, дадзеная нам ад продкаў спадчына. Хочацца і хочацца вярнуцца сюды яшчэ раз.



Наша маладзёжнае грамадскае аб'яднанне мае толькі навукова-асветніцкі накірунак. Мы ставім найперш на мэце актывізацыю маладога пакалення да вывучэння сваёй гісторыі, да актыўнага ўдзелу ў яе захаванні і даследванні. І гэта акцыя на Глыбоччыне, думаецца, вельмі паспрыяе нашай агульнай справе.

**На здымку** (унізе): аповяд Вольгі Дзмітрыеўны Гінько, выкладчыцы роднай мовы і літаратуры Празароцкай школы, якая рупліва збірала матэрыялы пра жыццёвы і творчы шлях Ігната Буйніцкага, заснавальніка беларускага тэатра, шмат каго кранулў да глыбіні душы.



**Інфармацыя для ахвотных удзельнічаць у рабоце МГА "Гісторыка": E-mail: historica@tut.by; прэзідэнт Ірына Кашталян, тэл.: 8 029 6632951, пісаць на адрас: 220119, г. Мінск, вул. Урыцкага, 46 - 1 - 18, тэл. хатні: 2632951, пэйджар: 2070000 абанент 6632951.**

# Справы судовыя

## "Падаткавы шок"




**Так называўся артыкул, надрукаваны ў "Вольным Глыбокім" (№ 10 за 7—13 сакавіка). Коратка, у ім ішла размова аб тым, што шматлікіх так званых "гоншчыкаў", людзей, якія займаліся на зусім законных падставах продажам замежных патрыманых іншамарак, выгнаных з-за мяжы, Полацкая мытня абвінаваціла ў недаплаце мытных плацяжоў і прад'явіла ім вельмі вялікія сумы запазычанасці, якія сягаюць ад 10 і да 100 тысяч умоўных адзінак.**

Прадстаўнікі мытні сцвярджаюць, што ў 2000 і 2001 годзе існавалі палажэнні аб тым, што гэтыя плацяжы павінны былі быць значна большыя за тыя, якія плацілі ў мытню "гоншчыкі". Самі "гоншчыкі" спасылаюцца на тое, што сваю дзейнасць яны праводзілі не ўпотайкі, неаднаразова звярталіся ў Пастаўскую мытню за растлумачэннямі. Але ім дазвалялі выганяць і растаможваць машыны па тых цэнах, якія сёння прызнаныя недастатковымі.

Справа дайшла да суда. Дарэчы, такім відам прадпрымальніцкай дзейнасці займаліся людзі не толькі ў Пастаўскім, Глыбоцкім, Шаркоўшчынскім раёнах нашага рэгіёна, але і ў іншых памежных раёнах нашай вобласці, а таксама на Гарадзеншчыне. І вось у Паставах адбыўся першы ў рэспубліцы суд над адным з "гоншчыкаў". Ім стаў В. Саўчук. Ён першы, але далёка не самы заўзяты прыхільнік гэтай справы. На судзе было ўстаноўлена, што гэты прадпрымальнік выгнаў з-за мяжы і прадаў на працягу 2000—2001 года толькі 14 аўтамабіляў. Між тым прадстаўнік пракуратуры патрабаваў на судзе не толькі спагнання з В.Саўчука запазычанасці перад мытняй, але і больш суровых пакаранняў, уключаючы нават прымусовыя работы з адлічэннем часткі заработнай платы.

Судовае разбірацельства доўжылася нямала часу. У рэшце рэшт вынесены прысуд. В.Саўчук прызнаны вінаватым у тым, што недаплаціў мытныя плацяжы, чым нанёс дзяржаве страты ў буйным памеры. І прысуд такі. Ён на два гады пазбаўлены права займацца гэтай дзейнасцю. Павінен вярнуць дзяржаве недаплату ў суме 13776 тысяч рублёў, а таксама судовыя выдаткі ў памеры 688 тысяч рублёў.

Шок працягваецца. Як прагучала ў каментарыі прадстаўніка Мытнага камітэта Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Васільцова: "Пачалавечы мне шкада гэтых людзей. Аднак, калі ў наяўнасці парушэнне, мытныя органы не маюць права скасоўваць ці змяншаць санкцыі". Вось толькі шаноўны прадстаўнік мытні не ўпамянуў нават, як ацэньвае ён пазіцыю Пастаўскай мытні, якая на працягу двух год дазваляла "гоншчыкам" парушаць закон. Ці яны яго не ведалі? Што ж тады казаць пра простых грамадзян, калі службовыя асобы, якія стаяць на абароне інтарэсаў дзяржавы, не ведаюць законаў гэтай дзяржавы.

Але справа не скончана. В.Саўчук, за якім у шэрагу стаяць дзесяткі і дзесяткі "гоншчыкаў", што неўзабаве таксама будуць прыцягнуты да суда, падае апеляцыю ў абласны суд. Тым больш, паўторым, што гэта першы прэтэдэнт у рэспубліцы. Верагодней за ўсё, што апошнюю кропку ў гэтай справе давядзецца ставіць Вярхоўнаму суду Рэспублікі Беларусь.

## "Канфлікт на начной дарозе"

**Гэты артыкул быў надрукаваны ў "Вольным Глыбокім" у № 17 за 25 красавіка – 1 траўня. У ім ішла размова пра здарэнне з вучаніцай Слабадской сярэдняй школы Шаркоўшчынскага раёна Наталляй Савельевай. Непаўналетняя дзяўчына падверглася жорсткаму збіццю з боку жонкі старшыні мясцовага калгаса І. Паўлоўскай, якая, дарэчы, з'яўляецца дырэктарам мясцовага музея. Будаваўся артыкул на падставе шматлікіх сустрэч і размоў з удзельнікамі і сведкамі падзеі. Настаўнікі школы, гонар і падзяка ім за гэта, дапамаглі дзяўчыне ў адстойванні яе правоў.**

І вось адбыўся суд. Праўда, справа ў судзе разглядалася ў выглядзе адміністрацыйнага правапарушэння. І ўсё-такі суд устанавіў: " 27 сакавіка 2002 года каля 24-00 гадзін гр. Паўлоўская І.І., знаходзячыся ў стане алкагольнага ап'янення, на перакрыжаванні дарог в.Жукоўшчына і в. Сямёнавічы на падставе асабістых непрыязных адносін учыніла сварку з Савельевай Н.П., у ходзе якой нанесла ёй пабоі, нанасіла ўдары рукамі па твары, ударыла каленам нагі ў вобласць жывата, хапалася рукамі за шыю."

Зразумела, бок, які адказваў у гэтай справе быў ва ўсеўзбраенні, ён адмаўляў нават сам факт збіцця, меў сваіх сведкаў, абарону. А хто мог стаць на бок непаўналетняй дзяўчыны? Быў адвакат, але ў самы апошні момант ён быў адхілены ад працэсу. Справа ў тым, што бацькі Наталлі і яна сама не маюць беларускіх пашпартоў, нядаўна пераехалі ў рэспубліку і таму не маглі выпісаць даверанасці адвакату.

Толькі сама Наталля на судзе трымалася годна, адстаяла сваю праўду. Вось толькі б каб да гэтай праўды яшчэ б і кампенсацыю – маральную і матэрыяльную. Бо дзяўчына нямала паездзіла па ўрачах, а тое, што не зняла медыцынскія пасведчанні аб пабоях – то хто ж тады параіў.

Мы ўвогуле маладасведчаныя ў прававых адносінах людзі. Канвенцыя аб правах дзіцяці была прынята Генеральнай Асамблеяй ААН у 1989 годзе, уступіла ў сілу ў 1990 годзе, яна ратыфікаваная і Рэспублікай Беларусь. У Рэспубліцы Беларусь у 1993 годзе прыняты Закон " Аб правах дзіцяці". Дарэчы, у Беларусі непаўналетнімі лічацца дзеці да 18 гадоў. Аднак згодна дадзеных сацыялагічных апытанняў толькі 10 працэнтаў беларусаў ведаюць пра змест гэтага дакумента, хаця больш 80 працэнтаў адзначылі, што не ведаюць зместа дакумента, але хацелі б яго вывучыць.

*А.Касцень*

# Змены ў кіраўніцтве сілавых структур?

**Сярод магчымых структур, якія закрануць рэформы, у ліку першых называюць КДБ.**

Акрамя Міністэрства абароны, няма ніводнай сілавой структуры, у якой бы неўзабаве не чакаліся значныя кадравыя змены. Гэтак сцвярджаюць многія назіральнікі, сярод якіх незалежныя эксперты і дасведчаныя журналісты.

Паводле гэтых крыніц, найбольш верагодная змена кіраўніка КДБ, але не выключаецца, што адстаўкі сілавікоў будуць праведзеныя, як кажуць, камплектам — як у 1999 годзе, калі разам з галоўным чэкістам замянілі і генеральнага пракурора, а напярэдадні і міністра ўнутраных спраў.

Паводле крыніц, хмары над цяперашнім старшынёй КДБ Леанідам Ерыным згусціліся яшчэ цягам леташніх выбараў. Сцвярджаюць, што ў Беларусі тады, не хаваючыся, працавала група адмыслоўцаў з расійскага ФСБ, якія здабывалі доказы датычнасці Аляксандра Лукашэнкі і людзей з ягонага найбліжэйшага атачэння да знікнення вядомых апазіцыянераў.

Ведамства Леаніда Ерына гэтым адмыслоўцам быццам бы не перашкаджала, пра што, паводле крыніц, паведамілі Лукашэнку. Не выключана, што звесткі зыходзілі ад першага намесніка Ерына Сцяпана Сухарэнкі, які быццам бы сам прэтэндуе на пасаду старшыні КДБ. Паводле пэўных крыніц, у адрозненне ад Ерына, пазіцыі Сухарэнкі пасля выбараў, наадварот, умацаваліся. Быццам гэта, дзякуючы яму, былі адхіленыя ад прэзідэнцкай гонкі такія небяспечныя для Лукашэнкі канкурэнты, як былы кіраўнік адміністрацыі Леанід Сініцын і былы амбасадар Міхаіл Марыніч.

Ва ўсялякім разе — факт тое, што неўзабаве пасля выбараў Сцяпан Сухарэнка атрымаў асабістую падзяку прэзідэнта, а пасля і пагоны генерала КДБ. А зараз яго называюць самым рэальным пераемнікам Леаніда Ерына.

Тое, што адстаўка Ерына магчымая, даў зразумець і Аляксандар Лукашэнка, які жорстка крытыкаваў старшыню КДБ на апошнім паседжанні ўрада. Ён не хаваў незадавальнення працай беларускіх чэкістаў і ставіў ім у прыклад расійскіх калег, але назіральнікі лічаць, што на самой справе Лукашэнка не задаволены якраз расійскімі чэкістамі. Дакладней, тым, што праз іх кожны ягоны крок адразу становіцца вядомым у Маскве. Менавіта таму паводле загаду Лукашэнкі ў КДБ цяпер нібыта пачалася кадравая чыстка, мэта якой — пазбавіцца магчымых маскоўскіх шпіёнаў.

Праўда, у самім КДБ звесткі пра такую чыстку рашуча абвяргаюць і нават не пацвярджаюць нейкіх надзвычайных кадравых зменаў. Кіраўнік аддзела сувязяў з грамадскасцю Фёдар Котаў, у прыватнасці, заявіў:

(Котаў: ) "У нашых сценах гэта не абмяркоўваецца, і такой інфармацыі няма. Няма і ніякіх кадравых змен у залежнасці ад таго, хто з кім працаваў. Канечне, нейкая цякучасць кадраў ёсць. Нехта з'ехаў працаваць у іншую вобласць, нехта атрымаў падвышэнне па службовай лесвіцы, а іншы пайшоў на пенсію. Але гэта як у звычайным жыцці".

Між тым, паводле іншых крыніц, спіс адказных супрацоўнікаў, якіх накіруюць у адстаўку пасля зняцця з пасады Леаніда Ерына, ужо складзены.

Пры гэтым назіральнікі сыходзяцца ў меркаванні, што нават самая рашучая чыстка спецслужбаў не дазволіць пазбавіцца ад расійскага кантролю над імі. "Там кожны другі, калі не расійскі шпіён, то дакладна агент уплыву. Калі Лукашэнка сапраўды хоча пазбавіцца ад вока Масквы, то яму давядзецца закрываць усе спецслужбы і ствараць новыя.

Яшчэ адным агульным меркаваннем ёсць тое, што пасля Леаніда Ерына могуць зняць з пасад міністра ўнутраных справаў Уладзіміра Навумава і генеральнага пракурора Віктара Шэймана.

*Алег Груздзіловіч*




У гарадскім Доме культуры прайшоў фінальны этап конкурса клубаў вясёлых і знаходлівых. У ім прынялі ўдзел каманды «Глыбоцкія клёцкі» гарадскога Дома культуры, «Падсвільскія самацветы» Падсвільскага гарадскога Дома культуры, «Шанхай» Дзеркаўшчынскага сельскага Дома культуры, «ДМБ» Удзелаўскага сельскага Дома культуры. Нягледзячы на моцную падтрымку гледачоў, глыбачане былі толькі на другім месцы, а першае заняла каманда «Шанхай» з Дзеркаўшчыны.

*Фота Ул. Скрабатуна*

# Генадзь Бураўкін — госць глыбачан

**Нельга сказаць, што Глыбокае абдзелена ўвагай знакамітых людзей. І больш за ўсё шчасціць прыхільнікам роднай мовы і літаратуры. Летась да нас завітала Вольга Іпатава, слынны празаік, якая цяпер займае пасаду старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі. А ў чацвер, 16 мая глыбачане мелі магчымасць сустрэцца з Генадзем Мікалаевічам Бураўкіным, чалавекам, чыё імя не патрабуе рэкламы.**

Сустрэчу ладзіла абласная арганізацыя Таварыства Беларускай мовы імя Францыска Скарыны, а арганізаваў мясцовы аддзел культуры разам з супрацоўнікамі раённай бібліятэкі. А прайшла яна ў рамках мерапрыемстваў, якія прысвечаны юбілею Якуба Коласа і Янкі Купалы.

Паэт, празаік, перакладчык, лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола, дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы, грамадскі дзеяч, Генадзь Мікалаевіч і на гэтай сустрэчы імкнуўся данесці да слухачоў сваё паэтычнае слова, сваё жаданне служыць праўдзе і змагацца за яе. 12 год Генадзь Бураўкін узначальваў Дзяржаўны камітэт па тэлебачанні і радыёвяшчанні, а потым быў спецыяльным прадстаўніком Беларусі ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Гэта і акрэсліла тэму гутаркі. У час гутаркі Генадзь Мікалаевіч нагадаў прысутным, што больш за два дзесяткі яго вершаў былі пакладзены на музыку. Тры гады запар гэтыя песні займалі першыя месцы на ўсесаюзных конкурсах. Гэта песня Ігара Лучанка "Зачараваная мая", песня Эдуарда Ханка "Белы снег, белы снег" і песня Васіля Раінчыка "Першая сустрэча". Усе гэтыя творы добра знаёмы людзям старэйшага пакалення. Дваццаць год назад разам з Васілём Раінчыкам



Генадзь Бураўкін напісаў "Калыханку", якая кожны вечар гучыць па тэлебачанні.

З гонарам за сваю краіну расказваў Генадзь Мікалаевіч пра сваю работу ў Злучаных Штатах Амерыкі. Працуючы ў ААН, ён змог зразумець, наколькі важная для любой, нават самай маленькай краіны яе незалежнасць. А калі яго запыталі аб тым, як наша Беларусь выглядае з аддлегласці, адказаў: "Беларусь – нармальная, абсалютна годная



краіна, бо ў вялікай сям'і іншых краін у нас няма нічога сарамлівага... Мы з вамі, беларусы, знаходзімся ў залатой сярэдзіне."

Генадзь Мікалаевіч чытаў вершы, у тым ліку са сваіх рукапісаў. Так, падрыхтаваны да друку новы зборнік, які ён назваў "Жураўліная пара". Туды ўвайшлі вершы апошніх год мінулага стагоддзя.

Горача абмяркоўвалася тэма засілля масавай культуры на тэлебачанні, духоўнага збяднення моладзі, закраналіся пытанні веры, развіцця беларускай мовы. Паўтары гадзіны, якія былі адведзены для сустрэчы, канечне, аказаліся мінімумам, каб славуты чалавек беларускай зямлі, ураджэнец Віцебшчыны, Генадзь Мікалаевіч Бураўкін, змог адкрыць глыбачанам свой вялізны творчы патэнцыял. Далей яго чакалі Паставы, Браслаў, Віцебск, шматлікія прыхільнікі роднай мовы, проста неабыякавыя людзі.

**На здымку:** 1.Генадзь Бураўкін чытае свае вершы
2.Сустрэча з чытачамі

*Ю.Калбасіч (фота аўтара).*

Выступленне Генадзя Бураўкіна ў Паставах планавалася найперш у самай буйной і, відаць, як сёння гавораць, найбольш «крутой» школе № 1. Але аказалася, што ў гэтай школе паэта Генадзя Бураўкіна, аўтара шматлікіх класічных вершаў, якія ўваходзяць у анталогію сучаснай беларускай паэзіі, аўтара песняў, якія выконваюць самыя вядомыя сённяшнія спевакі, не ўспрымаюць. Дырэктар школы аб'явіў, што гэта выступленне не патрэбна, хаця дамоўленасць аб ім папярэдняя была.

Што ж. Для Пастаўшчыны гэта не выключная з'ява. Тут вельмі чуйна ўспрымаецца кожны подых ў дачыненні да кожнага чалавека, які пачынае выказваць свае погляды, што розняцца з поглядамі існуючай сістэмы.

Нашмат горш канстатаваць тое, што і ў раённы Дом культуры на сустрэчу з паэтам найперш прыйшло ўсяго некалькі дзесяткаў чалавек. Адсутнасць належнай рэкламы, адсутнасць той у любым выпадку самай мінімальнай інфармацыі, без якой сёння не абысціся.

Мы некалі аб гэтым пашкадуем. Калі будзе каму шкадаваць.

*Алесь Касцень*

# "Другі нацыянальны тэлеканал" затрымліваецца?

**Выхад у эфір "Другога нацыянальнага тэлеканалу", ці АНТ (агульнанацыянальнага тэлебачання), мяркуючы з усяго, пакуль адкладаецца. Нагадаем: на прэс-канферэнцыі ў канцы сакавіка кіраўнікі яго называлі за тэрмін другую палову траўня. Аднак на гэты момант нават не завершана пастаўка неабходнага абсталявання. Між тым, поўнай хадою ідзе адборачны конкурс новых тэлевядучых: пяцёрка першых "кандыдатаў" ужо вызначана.**

Тэлеканал АНТ -- нагадаем -- будзе "дзяліць кнопку" з расійскім тэлеканалам ОРТ і заяўлены як "пераемнік лепшых традыцый і філасофіі" Общественного российского телевидения -- пра гэта казалі яшчэ ў канцы сакавіка кіраўнікі новага беларускага канала. "Канал АНТ -- падавалася ў распаўсюджаным тады прэс-рэлізе - создаётся не вместо "ОРТ", а вместе с этим самым популярным российским каналом. Данное стратегическое преимущество отражено в Протоколе о намерениях по сотрудничеству между белорусской и российской сторонами".

На практыцы для беларускага гледача (прынамсі, на пачатковым этапе) гэта будзе азначаць наступнае: штодня пасля праграмы "Время" ў вячэрнюю сетку ОРТ будзе ўлучацца паўгадзінны выпуск беларускіх навін. Пра рэгулярнае перакрыццё нейкіх канкрэтных расійскіх тэлепраграм гаворкі пакуль не вядзецца. Больш за тое: паводле кіраўнікоў новага канала, калі праз 3 гады на ім будзе хаця б 50 на 50 (маюцца на ўвазе сурадносіны беларускага і расійскага вяшчання), гэта будзе вельмі добры паказнік...

Як мы ўжо зазначалі, шмат якія імёны са спісу начальства АНТ могуць падацца слухачу знаёмымі: да прыкладу, Рыгор Кісель (старшыня праўлення Закрытага акцыянернага таварыства «Другі нацыянальны тэлеканал»), Юры Казіятка (кіраўнік службы інфармацыі), Ягор Хрусталёў (праграмны дырэктар). Значна менш на слыху з"яўляліся імёны генеральнага дырэктара Андрэя Астравуха і генеральнага прадзюсера -- Юрыя Ігрушы. Менавіта спр Астравух паведаміў Рацыі ў пятніцу, што з-за недапаставак абсталявання тэрміны выхаду ў эфір АНТ пакуль назваць немагчыма. Ён параіў патэлефанаваць праз тыдзень, паабяцаўшы тады назваць дакладную дату.

Дарэчы, пытанне, на якой мове будзе вяшчаць тэлеканал -- расійскай ці беларускай -- паводле сп-ра Астравуха, пакуль "канчаткова не вырашана". Сапраўды: валоданне той ці іншай моваю не фігуруе сярод умоваў удзелу ў конкурсе тэлевядучых. У рэкламным роліку, які цяпер актыўна "круціцца" па некалькіх тэлеканалах, азначаны толькі пол (мужчынскі), узрост (ад 30 да 45 гадоў) і добрая дыкцыя. (А таксама - высокая аплата працы.)

Генеральны дырэктар запэўніў, што прыцягненне новых сіл выклікана ніяк не нястачай прафесіяналаў, а толькі прынцыповым імкненнем прапанаваць гледачам "свежыя твары". Адборам вядучых, паводле нашага суразмоўцы, займаецца агулам каля сотні чалавек, што, безумоўна, сведчыць пра вельмі адказны і старанны падыход да справы... Пяць прэтэндэнтаў на гэты момант ужо адабраныя. І з панядзелка ў Мінску, абласных цэнтрах і нават вёсках пачынаецца праца з імі гэтак званых "фокус-групаў".

*В.Бабак*

# Дзвіна, Вілія і Нёман

**Асветніцкі цэнтр "Адукатар" рыхтуе да выдання канцэпцыі развіцця трох рэгіёнаў паўночна-заходняй Беларусі: заходняй часткі Міншчыны, Віцебшчыны і Гродзенскай вобласці. Распрацаваныя праграмы развіцця гэтых рэгіёнаў, умоўна названых Дзвіна, Вілія і Нёман, сталі выніковым прадуктам праекта "Развіццё кадравых рэсурсаў", які рэалізоўваў "Адукатар".**

У рамках праекта 20 лакальных лідэраў: прадстаўнікі НДА, лакальных структур і проста ініцыятыўныя асобы -- жыхары гэтых рэгіёнаў,-- дзякуючы ўдзелу ў адукацыйных семінарах у Вільні (Літва), атрымалі асноўныя веды пра структуру і функцыянаванне мясцовага самакіравання ў Літве. Зараз гэтыя веды і вопыт суседняй дзяржавы будуць прымяняцца ў Беларусі.

Распрацаваная на дадзены момант рэальная праграма ўключае як грамадска-палітычныя, так і культурныя, адукацыйныя і эканамічныя аспекты рэгіянальнага развіцця тэрыторыі ад Гродна да Мёраў і Друі (Віцебская вобласць). Як патлумачыў каардынатар праекта сп. Алесь Стральцоў, "гэтая частка Беларусі была абрана свядома, паколькі адукацыйныя мерапрыемствы праекта праводзіліся ў Вільні, а рэгіёны Дзвіна, Вілія і Нёман калісьці былі часткай агульнай тэрыторыі, якая называлася Віленшчына, і натуральна, што людзі, якія жывуць у гэтых рэгіёнах, ментальна дастаткова блізкія да тых, якія жывуць ужо па той бок мяжы, на тэрыторыі той часткі Віленшчыны, якая знаходзіцца ў межах Літоўскай рэспублікі. І таму адной з асноўных ідэй праекта было пазнаёміць беларускае насельніцтва Віленшчыны з тымі формамі самакіравання, якія існуюць у Літве, з іншымі спосабамі вырашэння лакальных праблем, каб потым беларусы маглі скарыстаць гэты вопыт у сябе".

На думку арганізатараў праекта, жыццяздольнасць падрыхтаваных канцэпцый развіцця цалкам залежыць ад людзей, якія будуць працаваць над іх рэалізацыяй. Мяркуецца працяг праекта з абноўленай і пашыранай групай удзельнікаў. Плануецца стварэнне новых мэтавых груп: навучальныя семінары павінны прайсці не толькі грамадскія лідэры, але і звычайныя грамадзяне: настаўнікі, урачы, прадпрымальнікі і інш.

Кантактны тэлефон у Мінску: **(017) 219 40 64.**

*«RR»*

# Крадуць правады

**У Вярхнядзвінскім раёне затрыманы выкрадальнікі электраправоду.**

Гэта адбылося ў гарадскім пасёлку Асвея. За ноч двое мясцовых жыхароў, якія нідзе не працуюць, укралі 210 метраў алюмініевага праводу з лініі электраперадач, абясточыўшы некалькі жылых дамоў. Аднак зладзеі не засталіся непакаранымі. У хуткім часе ўчастковыя інспектары міліцыі затрымалі зламыснікаў. Электразабеспячэнне адноўлена.

*І.Хадасевіч*

# У госці да Міндоўга

**У канцы гэтага чэрвеня старажытны Наваградак зноў зробіцца месцам паломніцтва аматараў эпохі рыцарства: там пройдзе другі па ліку сярэднявечны фэст "Наваградзкі замак". Рыцарскія турніры, кірмаш, тэатралізаваныя дзеі, выступы дзясяткаў выканаўцаў фальклорнай і сярэднявечнай музыкі - такая багатая праграма двухдзённага фэсту, як мяркуюць арганізатары, збярэ ад 25 да 40 тысяч гледачоў з Беларусі ды іншых краін Еўропы. Зараз бадай асноўны клопат - забяспечыць гасцям прыстойныя ўмовы побыту.**

Першы фестываль "Наваградскі замак" адбыўся ўлетку 2000 года. Нягледзячы на тое, што рыцарскі рух паўстаў у Беларусі значна раней, для нашай краіны гэта быў першы досвед правядзення маштабнага сярэднявечнага "сэйшну". Да таго часу беларускія рыцары набіраліся досведу на штогадовых турнірах у Латвіі, Чэхіі, Польшчы ды іншых краінах. Запрашаць беларусаў у "сярэднявечную" Еўропу пачалі з 1994 году. Пачынаючы з 2000-га, звілася магчымасць запрасіць еўрапейцаў у "сярэднявечную" Беларусь. Гэтым разам у Наваградак прыедуць прадстаўнікі рыцарскіх клубаў як найменш з 7 краін: у тым ліку з Прыбалтыкі, Польшчы, Украіны і Расіі. З беларускага ж боку да ўдзелу ў фэсце запрошаны ўсе клубы, якія займаюцца рэканструкцыяй культуры IX-XVI стагоддзяў.

У праграме фэсту - турнір караля Міндоўга, сярэднявечны кірмаш, паказальныя выступленні рыцарскіх клубаў, стралковыя і кідковыя турніры, тэатралізаваная сцэнка "Каранацыя Міндоўга", інсцэніроўка бітвы 1394 года. На Замкавай гары мастакі мерацца ўзвесці з пяску двухмятровую скульптуру караля Міндоўга. Музычнае афармленне будуць забяспечваць 12 беларускіх і замежных гуртоў, што выконваюць сярэднявечную альбо фальклорную музыку…

Дарэчы, у таго, хто не быў у Наваградку два гады таму, але трапіў на турнір, што праходзіў летась у Мядзеле, магло скласціся не зусім правільнае ўяўленне пра маштабы і характар фестываляў сярэднявечнай культуры. Рэч у тым, што мядзельская імпрэза і не прэтэндавала на такі статус: гэта быў проста турнір -- баявы хрост для пачаткоўцаў, з практычна неабмежаванай колькасцю ўдзельнікаў і без якіх-кольвеч асаблівых вымогаў што да вонкавага выгляду… У Наваградку ж ніякіх




"вучэнняў" не будзе: гэта сапраўды паказальныя выступы наймацнейшых, да якіх арганізатары будуць выстаўляць самыя жорсткія патрабаванні.

Асноўнымі арганізатарамі сёлетняй імпрэзы выступаюць Міжнародная сярэднявечная ліга (устаноўчы сход яе адбыўся ў красавіку, і рэгістрацыйныя дакументы пакуль знаходзяцца ў Мінюсце), мінская унія "Меч і крумкач", наваградзкі райвыканкам і Міністэрства культуры.

Два гады таму асноўныя фігуранты былі амаль тыя ж, толькі ініцыятыўная група істотна "абрасла" новымі ўдзельнікамі, - узгадвае адзін з кіраўнікоў Міжнароднай сярэднявечнай лігі Ігар Міхна.

І.М.: - Вось у нас быў ініцыятыўны такі гурт - чалавек 5 - і, натуральна, выканкам раённы. Таму што без уладаў жа нічога нельга рабіць на тэрыторыі раёна… Міністэрства культуры, на просьбу ўладаў, таксама дапамагло: людзі з тых краін, з якімі ў нас візавыя адносіны, атрымалі бясплатныя візы. Улады наваградскія бяруць на сябе рассяленне музыкаў, харчаванне, натуральна, - гэта таксама выдаткі. А ў Міністэрства культуры бюджэт і так скарочаны на гэты год… Ну, а з іншага боку, даволі малады ў нас рух - да пэўнага ўзроўню яшчэ трэба дарасці….Ужо зараз ёсць хоць разуменне нармалёвае ды нейкі досвед кантактаў.

Іншымі словамі - сродкі на фэст шукаюць самі арганізатары. Клубы тут дапамагчы нічым не могуць: у іх грошай хапае толькі сабе на дарогу туды-назад. Таму ўся надзея - на спонсараў. У падрыхтоўцы мядзельскай імпрэзы, да прыкладу, вельмі дапамагла японская карпарацыя "Konica"; невялікія сумы звычайна выдаткоўваюць камерцыйныя банкі.

Дарэчы, менавіта на грашовай глебе, калі памятаеце, раптоўна паўстаў летась канфлікт сярод беларускага рыцарства: некаторыя клубы звінавацілі арганізатараў фестываляў у "камерцыялізацыі" руху. Зараз, паводле Ігара Міхны, разлад улагоджаны: відаць, занадта складана разабрацца ў гэтым пытанні і падзяліць рыцараў, так бы мовіць, на "чорных" і "белых".

І.М.: - Гэта ўсё пытанні складаныя: камерцыялізацыя руху… Усе выступаюць за грошы. Да прыкладу, на Дзень беларускага пісьменства плошча нейкае мясцовае ўпраўленне культуры, корміць, селіць… Гэта камерцыялізацыя ці не? А чым такі выступ адрозніваецца ад выступу ў нейкай фірме, якая, можа, трошкі болей заплоціць?

Тым больш, як сведчыць досвед замежных краін, грошы, якія паступаюць у мясцовы бюджэт ад гэткіх імпрэзаў, звычайна ідуць на ўзнаўленне і прыстойнае ўтрыманне тых самых гістарычных помнікаў, вакол якіх разгортваюцца дзеі. Спакваля гэтая схема пачынае "працаваць" і ў нас.

І.М.: - У нас і ў статуце Лігі запісана ў адным з пунктаў: садзейнічанне ахове, аднаўленню… Ну, і той жа Наваградскі замак -- пачынаюць паступова рэстаўрацыю… Калі ў мяне перад першым фэстам пыталіся пра аднаўленне замка, дык я так успрымаў гэта: як гадоў праз 500 і дзе-небудзь на Марсе. А зараз ужо сапраўды робіцца праект, і кансервацыя, і аднаўленне вежаў… Пакуль што мы тут іншым спосабам, акрамя як прыцягненнем увагі, гэтаму ніяк не паспрыяем. Але, тым не менш, Міністэрства эканомікі, здаецца, вылучыла Наваградскі раён як адзін з тых, што будуць прыярытэтна развівацца ў турысцкім накірунку. Усё ж такі ўсё больш і больш матэрыялаў у прэсе зяўляецца. Людзі адмыслова ездзяць туды, фатаграфуюць, даследуюць, пішуць… У нас не так многа замкаў, таму я думаю, з цягам часу ўсё будзе добра…

У канцы зазначым: тым, хто вельмі заклапочаны ўмовамі свайго побыту ў Наваградку ў час фэсту, лепш звязацца загадзя з арганізатарамі і дамовіцца наконт месца - а заадно, магчыма, і наконт арганізаванай дастаўкі туды-назад. Ніякіх новых мотэляў у горадзе пакуль не пабудавалі. Аднак, як паведаміў Ігар Міхна, на ўскрайку Наваградка арганізатары плануюць разбіць адмысловы кэмпінг - з аховаю, крамай, арганізаваным падвозам пітной вады і нават дроў для вогнішча.

**Тэлефон арганізатараў у Мінску - 220-68-74.**

## Калі адбудзецца пахаванне "сярпаста-малаткастага"

Упраўленне пашпартна-візавай службы МУС Беларусі плануе звярнуцца ў савет міністраў з прапановай вызначыць тэрмін заканчэння дзейнасці пашпарта СССР узору 1974 года на тэрыторыі краіны.

На сённяшні дзень каля 70 працэнтаў грамадзян Беларусі атрымалі нацыянальны пашпарт новага ўзору. Сёння ў Беларусі ў якасці пасведчання асобы прызнаецца пашпарт грамадзяніна Беларусі 1993 і 1996 гадоў. У Расійскай Федэрацыі тэрмін дзейнасці пашпарта СССР узору 1974 года заканчваецца 31 снежня 2003 года.

*"БДГ"*

## Мірскі замак атрымае гарантаваную дапамогу ЮНЕСКА

**Сярод аб'ектаў культурнага і прыроднага характару, уключаных у спіс ЮНЕСКА, два знаходзяцца на тэрыторыі Беларусі: Белавежская пушча і Мірскі дварцова-паркавы ансамбль – адзіны такога роду ў Еўропе.**

Прычынай для яго будаўніцтва ў пачатку 16 стагоддзя паслужылі частыя набегі крымскіх татар, якія рабавалі Мір і яго ваколіцы. Узвядзенне мясцовым магнатам Ільінічам, замак уяўляе сабой узор абарончага збудавання, якое паспяхова процістаяла варожым нападам. Ён не раз адбудоўваўся і дабудоўваўся. Найбольшага свайго росквіту дасягнуў пры Мікалаі Кшыштафе Радзівіле. Аднак час – гістарычныя і палітычныя катаклізмы – зрабілі сваё. З пачатку мінулага стагоддзя старажытны замак не раз прыцягваў увагу вучоных. У савецкі час раскопкі тут праводзіліся ў 1970-80-ыя гады. Атрыманыя пад час іх звесткі, архіўныя матэрыялы паслужылі асновай для праекта рэстаўрацыі замка. Яна хоць і з перапынкамі, але ідзе з 1992 года. Вялікую дапамогу аказала ЮНЕСКА – 25 тысяч долараў. З лістапада мінулага года замак унесены ў спіс культурнай спадчыны гэтай сусветнай арганізацыі. Таму дапамога ЮНЕСКА ва ўзнаўленні Мірскага дварцова-паркавага ансамбля цяпер будзе гарантаванай. У хуткім часе ў замку пачнуцца сапраўдныя рэстаўрацыйныя работы. Пасля іх заканчэння Беларусь будзе мець асабісты замак-музей, які безумоўна стане самым лепшым упрыгожаннем турысцкага "залатога кальца".

*«БДГ»*

## Варшава: пачынаюцца кансультацыі паміж консульскімі службамі

**МЗС Польшчы прапанавана абмеркаваць пытанні ўзаемных паездак грамадзян дзвюх краін і праблемы двухбаковай прававой дапамогі.**

Па іфармацыі МЗС нашай краіны неабходнасць кансультацый выклікана рашэннем польскага ўрада, прадугледжваючым уводзенне з 1-га ліпеня 2003 года візавых адносін паміж дзяржавамі. Як стала вядома, беларускі бок намераны абмеркаваць магчымасць заключэння двухбаковай згоды, рэгулюючай паездкі беларускіх і польскіх грамадзян. Пад час кансультацый плануецца таксама разгледзець другія актуальныя пытанні, якія знаходзяцца ў кампетэнцыі консульскіх служб дзвюх дзяржаў.

*"БДГ"*

## Полацкі мільянер

Віцебская абласная пракуратура скончыла расследванне крымінальнай справы, узбуджанай супраць аднаго з самых багатых жыхароў Полацка -- саўладальніка швейнай фабрыкі "Мона" Сяргея Палякова. Усяго ў выніку цягнуўшагася каля паўгода расследвання прадпрымальніку былі прад'яўлены два абвінавачванні. Адно -- у атрыманні хабару ў памеры 5 тысяч долараў, а другое -- у злоўжыванні службовым становішчам на такую ж суму. Калі суд прыме ўсе доказы следства і падыйдзе да разгляду справы жорстка, то Палякоў можа пазбавіцца маёмасці на суму ў 2,5 млн. долараў.

*«БДГ»*

## Беларусам у Польшчы вернуць "Tax Free"

"Прыорбанк" заключыў дамову з польскім прадстаўніцтвам кампаніі "Global Refund" – лідэра сярод кампаній, якія займаюцца зваротам падатковых плацяжоў.

Цяпер беларускія грамадзяне, купляючы тавар у польскіх магазінах, дзе на ўваходзе маецца знак "Tax Free Scoping", могуць пазбегнуць двайнога падаткаабкладання і вярнуць частку заплачанага за тавар падатка на дабаўлены кошт. Стаўка падатку ў Польшчы складае ад 3 да 22 працэнтаў. Зрабіўшы пакупку на суму не менш 200 польскіх злотых (каля 50 долараў ЗША), дастаткова папрасіць касіра выпісаць чэк "Tax Free" і затым, выязджаючы з Польшчы, паставіць на чэк штамп у мытным пункце на мяжы, не пазней чатырох месяцаў пасля пакупкі тавара. Пасля вяртання ў Беларусь грошы па чэках можна атрымаць у філіялах "Прыорбанка" ў Мінску, Гродна, Лідзе і Пінску.

*"БДГ"*

# Легенды і паданні

# Зубкоўскага гарадзішча

**Бліз дарогі Капыльшчына-Бушыкі, каля ўезду ў в.Залессе, на высокім, стромкім узвышшы знаходзіцца старажытнае гарадзішча.**

Уяўляе яно сабою вялізную пляцоўку, ахаваную з аднаго боку старым борам, а з другога – возерам Зубкоўскім. Гарадзішча адносіцца да ранняга славянскага перыяду (часу каланізацыі славянамі балцкіх плямёнаў). Перыяд засялення датуецца межамі I ст. да н.э. – V ст н.э. Упершыню гэты археалагічны помнік выяўлены Ф.В. Пакроўскім у 1890-х гг. У 1938 г. даследвалі гарадзішча А. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч. У наш час абследвалі гэта месца археолагі М. А. Ткачоў (1972г.) і Л.У. Дучыц (1981г.). Апошні раз грунтоўныя раскопкі праводзіў А. М. Мядзведзеў у чэрвені 1995 года. Знаходак было няшмат: фрагменты штрыхавана-ляпной керамікі–носьбітаў днепра-дзвінскай культуры, косці жывёл, шлакі. Яно і зразумела: большая частка старажытнага селішча штогод разорваецца і засяваецца калгасам. "Свабодным" застаецца толькі абарончы вал. Аднак, адчуваецца, што шмат цікавага яшчэ ёсць у нетрах гэтай зямлі. Археолаг Мядзведзеў у першы дзень прыезду проста пахадзіў па засеянай частцы гарадзішча і на паверхні знайшоў каменную сякеру. А гаспадар хаты, дзе жыў археолаг, падараваў яму цудоўную рэч – касцяную ўтулку дроціка з арнаментаваным узорам, знойдзеную калісьці на тым жа месцы.



Побач з гарадзішчам знаходзіцца курганны могільнік. Праўда, зараз ён з цяжкасцю выдзяляецца ў хвойніку. У мінулым стагоддзі зноў жа выявіў яго Ф.В. Пакроўскі. Тады налічваў могільнік 65(!) курганных насыпаў. У 1938 годзе археолагі Галубовічы правялі тут багатыя раскопкі: знойдзены бронзавыя кольцы, пярсцёнкі, бранзалеты, жалезныя нажы. Пахавальны абрад могільніка – трупапалажэнне. Матэрыялы раскопак польскага часу захоўваюцца ў гісторыка-этнаграфічным музеі Літвы.

Легенды заўсёды надаюць беларускім мясцінам чароўны рамантычны фон. Так сталася і з гарадзішчам у Зубках. Ф. В. Пакроўскі, захавальнік Віленскага музея старажытнасцей, праз мясцовую інтэлігенцыю сабраў шмат звестак пра курганы і гарадзішчы глыбоцкай зямлі. Надрукаваны яны былі ім у "Археалагічнай карце Віленскай губерніі"(1893г.). Там мы знойдзем звесткі і пра Зубкі.

Мясцовае паданне сведчыць аб тым, што на месцы гарадзішча калісьці быў горад з манастыром і замкам. Разбураны ён быў у час Шведскай вайны. Легенда дабаўляе, што пад адным з узвышшаў ёсць падзямелле, дзе захоўваецца шмат жалеза, грошай і... 8 бочак гарэлкі. Апошняе "ўдакладненне" наконт гарэлкі крыху выклікае ўсмешку, але ж на тое яна і легенда. Успамінаецца і тое, што ад былога горада засталіся толькі каменныя пліты з 4- і 8-канцовымі крыжамі. І гэта ўжо рэальнасць, якая сведчыць аб тым, што тут існавалі старажытныя пахаванні.

З вуснаў мясцовых жыхароў перадавалася паданне і пра тое, што на месцы зубкоўскіх курганоў некалі была бітва трох цароў – рускага, шведскага і яшчэ нейкага трэцяга. Сама ж гэта мясцовасць – гарадзішча і могільнік – насіла назву Царквішча і Пагарышча.

У гэтых тапонімах мне падаецца ўсё ж нейкая рэальная сувязь з мінулым, напэўна, недзе трагічная... "Царковішча" – значыць, недзе быў храм. "Пагарышча" – значыць, быў вялікі пажар і знішчэнне. Прыгожаму паданню хочацца верыць. Жыццё продкаў на гарадзішчы магло доўжыцца і ў сярэднявеччы. Можа, нават, менавіта тут, на высокай пляцоўцы, існавала ўмацаваная сядзіба ўладара Залесся Яна Корсака або яго сыноў?

Аб непрадказальнасці гэтай мясцовасці на "сюрпрызы" доказам можа паслужыць яшчэ і той факт, што ў 1884 годзе на адным з узвышшаў Царквішча селянін в.Зубкі І.Блізняк знайшоў скарб сярэбраных манет XVIII стагоддзя. Змесціва скарбу было досыць шыкоўным: чвэрці талераў, паўталеры, талеры Іспанскіх Нідэрландаў; талеры Аб'яднаных правінцый (усяго 34 манеты).

Звесткі аб скарбе былі падцверджаны мясцовым настаўнікам і пісарам Залескай валасці. Святар царквы ў Бушыках М. Памяранцаў занатаваў гэты факт у царкоўным летапісе.

Па апошняй даце чаканкі манет устаноўлена, што скарб быў ухаваны ў 1695 годзе. Частка манет (талеры і паўталеры правінцыі Брабант) была адпраўлена ў Імператарскую Археалагічную Камісію г. Санкт-Пецярбурга.

Лёс усіх астатніх манет невядомы. Магчыма, яны разышліся па руках. Кім і пры якіх абставінах быў захаваны каштоўны скарб – гэта ўжо таямніца. Ці то гаспадаром яго быў тагачасны ўладар Залесся з роду Цеханавецкіх, ці то які заможы селянін, закапаўшы свае зберажэнні на "чорны" дзень або ў час якой-небудзь пагрозы.

Вышэй пералічаных звестак ужо хапае для таго, каб паставіць зубкоўскае гарадзішча ў адзін рад цудоўных помнікаў гісторыі, культуры і фальклору Залесчыны: царква ў Бушыках, маёнтак і пейзажны парк у Залессі-Астроўна, Мамчына горка, гарадзішча ў Запруддзі, Капец, Гараватка... Разумееце, на Злесчыне можна адкрыць сапраўдны турысцка-краязнаўчы маршрут!

Але ж, напрыканцы, крыху гарчыні і суму... Пра знішчэнне палаца Молле ў Залессі-Астроўна Вы ўжо ведаеце, пра занядбаны парк–вы комплекс таксама. А што ж на гарадзішчы ў Зубках? Там стаяць два памятныя знакі, якія папярэджваюць аб тым, што што тут знаходзіцца старажытнае гарадзішча – помнік археалогіі. Аднак, вы нічога не ўбачыце і не прачытаеце... У гэтым годзе пліты з надпісам зніклі. "Двуногія" варвары, нашы з вамі сучаснікі, жыўцом адарвалі пліты з пастаментаў. Напэўна, здалі іх на лом. Можа, зарабілі нейкую капейчыну на жыццё.

Прыкра і сорамна... Такая вось рэчаіснасць. Культура не ў пашане. "Пліты – дробязь", -- скажа нехта. Ды не, здаецца мне – гэта здзекі над памяццю нашых продкаў...

*Р. Шарыпкін, настаўнік Лучайскай БШ, краязнаўца.*

# Што будзе, калі не будзе калгасаў?

У нашым, заходнім рэгіёне Віцебшчыны, калгасы ўтварыліся, дакладней, іх утварылі на мяжы 40 -- 50 гадоў мінулага ўжо стагоддзя. Пра тое, як гэта рабілася, шмат пісалі і пішуць. Але наспела зусім іншая праблема: сёння мала хто сумняваецца ў неабходнасці рэфармавання калгаснай сістэмы. Нават на дзяржаўным узроўні ідзе гаворка пра такую рэфармацыю. Адну з такіх канцэпцый давялося неяк пачуць з вуснаў кіраўніка сельскай гаспадаркі. Ён чыноўнік, таму, зразумела, імя называць не будзем.

"Я не зусім згодзен з тымі мадэлямі рэфармавання стратных калгасаў, якія прапанаваныя сёння. Памяняць вывеску ў такой гаспадарцы няцяжка, а вось сапраўды яе рэфармаваць...

Я катэгарычна супраць раздзялення зямлі па паях. Гэта ні да чаго добрага не прывядзе, пра гэта сведчыць і вопыт нашых суседзяў. Ды і як, уявіце, раздзяліць па паях вялікі, на сотні гектараў, напрыклад, меліяраваны масіў? Што зямля ад гэтага шмат страціць, зразумела.

Старажытныя лаціняне, права якіх мы і сёння вывучаем, у свой час зведалі нечым падобны крызіс. Вялікія латыфундыі сталі эканамічна нявыгаднымі. Але там не дзялілі гэтыя латыфундыі. Праводзіліся своеасаблівыя аукцыёны, на якіх выйграваў і забіраў зямлю той, хто абяцаў больш вялікую плату за яе. І нёс поўную адказнасць, у тым ліку і матэрыяльную, за сваё абяцанне.

Чаму б нам і сёння, калі калгас страціў усялякі сэнс свайго існавання, не пашукаць асобу альбо арганізацыю, якія б узяліся вывесці яго і яго насельнікаў з бездані.

Бо не толькі і не столькі, відаць, уласнасць на зямлю вызначае бядотны яе стан. Шмат дзе страчана. Не забяспечваюцца тэхналагічныя патрабаванні працы на ёй. Гэта патрабуе не толькі наяўнасці трактароў, але ж і цэлага "шлейфу" сельгасмашын да іх, іншай тэхнікі, угнаенняў, гербецыдаў. Калі калгас са свайго прыбытку можа купіць да веснавых палявых работ толькі пару колаў да трактара, пра захаванне якой тэхналогіі можна гаварыць. Да нядаўняга часу перад калгасам ставілася задача: вясной усё пасеяць, восенню ўсё ўбраць. Менавіта такая цвёрдая пастаноўка задачы ў многім падрывала эканоміку гаспадарак. Прыкладам, ёсць калгас, дзе па лясах раскіданы лапікі зямлі, зямлі неўрадлівай па сваёй прыродзе. І на гэтыя два—тры гектары трэба пасылаць тэхніку, сеяць, потым пасылаць тэхніку жаць. А ячмень там вырастае такі, што і зрэзаць камбайнам няпроста. Ну і ўраджайнасць смешная на гэтых пясках. А колькі сродкаў ідзе толькі на пераезд тэхнікі туды і назад.

У раёнах ідуць на скарачэнне земляў для веснавой апрацоўкі. Лепш менш зрабіць, але зрабіць так, каб можна было гаварыць пра захаванне нейкай тэхналогіі. Са севазвароту выводзяцца тысячы гектараў. І гэта толькі пачатак, бо земляў, што прыносяць толькі страты, вельмі шмат.

— Дазвольце, але ж узнікае некалькі пытанняў. Дзяржава сёння не мае магчымасці дапамагчы калгасам у сапраўды эфектыўным правядзенні сяўбы. Другое, з вашым цвёрдым адмаўленнем ад раздзялення зямлі на паі ці не ўзнікне на вёсцы вялізная група людзей абдзеленых, тых жа пенсіянераў.

— Вы заўважылі, мы сёння ўсё радзей гаворым, што наша багацце не зямля, а людзі. І калі ў нас ёсць багатыя і бедныя калгасы, то, відаць, здарылася гэта і ад таго, хто як дзе працаваў, кіраваў таксама. Калі я гавару, што можна пакінуць часова неўрадлівае і далёкае поле і прыкласці сілы і сродкі да больш урадлівага, то гэта адносіцца і да калгасаў. Ёсць гаспадаркі, якім ужо нічым не дапаможаш. Там проста няма ні вытворчага, ні людскога патэнцыялу. Зноў раскідваць усім пароўну? Зноў нічога не атрымаецца. А вось дапамагчы тым, хто здольны яшчэ даць немалую карысць – адзіна правільна. Нерэнтабельнае трэба прадаваць. Іншых выйсцяў не бачыцца.

— Але людзі, людзі, людзі... Для многіх сёння калгас адзіны памочнік у іх няпростым стане. Новы гаспадар не дапаможа.

— Менавіта так. Сёння ніхто не лічыць, колькі калгас выдаткоўвае сродкаў на дапамогу вяскоўцам. Уласна кажучы, чым буйней гаспадарка, тым буйней выдаткі, якія абрутваюць яго эканаміна.

А ці задумваліся вы: колькі дапамогі ў выглядзе ўсемагчымых датацый атрымлівае сёння гараджанін і якая-небудзь бабуля ў аддаленай вёсцы, у суцэльным бездарожжы ад восені да вясны. Бабуля некалі з мужам ляпіла хату на ўласныя сродкі і ўласнымі сіламі. Гараджанін, які атрымаў кватэру, і сёння атрымлівае дапамогу ў выглядзе датацый на кватрплату, гарачую ваду і г.д. Гараджанін ў аптэцы мае падарункі ад дзяржавы ў выглядзе датацый на лякарствы, у бальніцы. Ды пералічваць можна доўга. А бабуля ў вёсцы так і жыве ў сваёй хаце, не ведаючы нават, што можна мець туалет у кватэры і не выходзіць на мароз. Нават калі яна захварэе, то ў тую аптэку па бясплатныя лекі не дабярэцца. Проста аўтобус у вёску не прыходзіць. Гэта ў горадзе яшчэ аўтобус даціруецца дзяржавай.

Дык вось мне здаецца, што ў справе рэфармавання сённяшніх калгасаў дапамога дзяржавы вясковаму жыхару—першы і першапачатковы этап. Канкрэтная, адрасная дапамога. Яна здыме многія балючыя пытанні. Няхай нават ад гэтага гараджаніну стане жыць "цясней". Яму льгот ад дзяржавы хапала і хопіць.

*Алесь Касцень*

# ✶ Гараскоп ✶ 23.05 – 29.05

**Авен (21.3 -- 20.4)** Для вас нябесныя рытмы рыхтуюць сур'ёзную перамену жыццёвых каўтоўнасцяў і даволі адчувальныя змяненні ў сямейным бюджэце. Звярніце ўвагу на здароўе і рэсурсы ў шырокім сэнсе слова. Калі вы адчуваеце недахоп жыццёвых сіл, падумайце, што альбо хто падтрымлівае вас і часцей звяртайцеся да гэтай крыніцы энергіі. Да сярэдзіны тыдня не пачынайце сур'ёзных фінансавых спраў. 29 ці 30 мая адпачніце, зрабіце што-небудзь для свайго задавальнення.

**Цялец (21.4 -- 20.5)** Распалажэнне нябесных цел дае вам шанц змяніць саё жыццё і самаго сябе. У вас з'явіцца жаданне па-новаму ўспрыняць свет, адчуць сябе лідэрам. Перашкодзіць у ажыццяўленні планаў можа ваша асабістая паспешлівасць. 23 мая верагодны нечаканыя пакупкі. Непрадбачаны падарунак лёсу можна атрымаць 25 мая. 31 мая добра змяніць прычоску, перагледзець гардэроб.

**Блізняты (21.5 -- 21.6)** Другая палова тыдня будзе больш удачлай, чым першая. 28 мая можаце зрабіць сур'ёзны паход па магазінах, пакупкі будуць удалымі. У дальнюю паездку лепш за ўсё адпраўляцца 24-25 мая. 27 мая будзьце асцярожнымі з вострымі і гарачымі прадметамі.

**Рак (22.6 -- 22.7)** Тыдзень будзе паласатым – то чорнае, то белае, то ўверх, то ўніз. Аднак у любым выпадку можна спадзявацца на падтрымку сяброў. 26 мая ў вас з'явяцца цікавыя перспектыўныя планы. Будзьце актыўней з дзецьмі, ім неабходна ваша падтрымка. 25 мая могуць быць непрыемнасці з-за чалавека, які здаваўся вам вельмі добразычлівым. 27 мая звярніце ўвагу на здароўе. 29 мая падыходзіць для кансультацыі з кваліфікаваным спецыялістам.

**Леў (23.7 -- 23.8)** У першай палове тыдня вас чакаюць непрадбачаныя сітуацыі і крутыя віражы на жыццёвым шляху. Ёсць добрая магчымасць дабіцца поспеху ў прафесійнай сферы. Для рашучых дзеянняў выкарыстайце 23 мая. У гэты дзень вы можаце нават адкрыць сваю справу. 26 мая пабудзьце з сябрамі. 30 мая пазбягайце вострых сітуацый, не гуляйце з лёсам. 24 мая магчымы падманы і расчараванні. 25 – незапланаваныя сустрэчы.

**Дзева (24.8 -- 23.9)** Першая палова тыдня спрыяльная для вандровак і вырашэння пытанняў вышэйшай адукацыі. Не адкладвайце гэтыя справы ў доўгую скрыню, потым будзе складаней. Ад'езд за мяжу лепш за ўсё запланаваць на 29 мая. 23 – 25 мая вам могуць прапанаваць больш выгаднае месца працы. Не адмаўляйцеся адразу – папрасіце час падумаць! 27 мая вашы дамашнія могуць уцягнуць вас у бескарысную і нявыгадную спрэчку.

**Шалі (24.9 -- 23.10)** Вам могуць прапанаваць прыняць удзел у новай калектыўнай рабоце, сумеснае выкарыстанне агульных рэсурсаў ці грошай. Адначасова прыйдзецца расплаціцца са старымі даўгамі. 28 і 29 мая пазбягайце сур'ёзных дзелавых размоў. 24 мая вас чакае рамантычная сустрэча з незнаёмым чалавекам. Калі вы аднесецеся да яе сур'ёзна, гэта здарэнне будзе мець лёсаносныя наступствы ў вашым асабістым жыцці. У канцы тыдня будзе удалай паездка на адпачынак.

**Скарпіён (24.10 – 22.11)** У пачатку тыдня ў вас пачынаецца новы працяглы этап адносін з партнёрамі, як дзелавымі так і рамантычнымі. Калі вы ўсё правільна разлічыце, то здолееце змяніць старыя ўзаемаадносіны да лепшага. Новыя знаёмствы і кантакты будуць доўгачасовымі і адкрываючымі перспектыву. 23 мая вашы сябры напомняць аб сабе. 24 не прымайце канчатковых рашэнняў. 22 спрыяльны дзень для падпісання дзелавых папер. Сямейныя канфлікты верагодны 24 і 25 мая.

**Стралец (23.11 -- 21.12)** Ваша імкненне да абсалютнага майстэрства ў прафесійнай сферы можа паглынуць большую частку вашага часу. Помніце пра неабходныя адпачынак і дыету – галоўныя правілы для выжывання ў каменных джунглях. Важныя справы пакінце на канец тыдня, аднак пазбягайце ў гэты час высвятлення адносін. 23 мая многія пытанні вырашацца самі сабой. 29 мая падыходзіць для тайных інтымных сустрэч.

**Казярог (22.12 -- 20.1)** Тыдзень асабліва запомніцца прадстаўнікам творчых прафесій удалай рэалізацыяй сваіх планаў. Рамантычныя сустрэчы верагодны 23 і 28 мая. Вы добра правядзеце час і скарэй за ўсё пажадаеце працягу. Майце на ўвазе, што майскія знаёмствы будуць мець тэндэнцыю да доўгачасовасці і сур'ёзнасці. 21 мая не гуляйце на грошы і не ўвязвайцеся ў аванцюры. 28 мая удалы дзень для прыёму гасцей. На 30 бярыце білет у тэатр, кіно, мюзікл.

**Вадалей (21.1 -- 19.2)** Выхадныя лепш за ўсё правесці на прыродзе, бліжэй да зямлі. Калі вы задумалі будаўніцтва, пакупку нерухомасці – не адкладвайце. Актыўней прыцягвайце да гэтай справы родных і дзяцей, але будзьце асцярожнымі вас могуць чакаць траўмы лёгкага характару, асабліва 29 і 30 мая. Будзьце асцярожнымі з фінансамі – яны могуць вылецець "у трубу".

**Рыбы (20.2 – 20.3)** Вы шмат будзеце ездзіць, сустракацца і знаёміцца. Намячаюцца кардынальныя змены ў вашым бліжэйшым акружэнні. 22 мая лепш не падпісваць ніякіх папер і не даваць нават самых нявінных абяцанкаў. З 26 з'явіцца неабходнасць займацца справамі сям'і. Не ўпускайце магчымасці асядлаць хвалю падзей, інакш яны самі прыйдуць, але ўжо без вашага жадання.

## Сканворд

Курс судна. Страна света. Снежн. кристалл. Человек из снега. Фильм Соловьева. ...Пансо. Рыба в зародыше. Новогодний утренник. Синий, синий ... Праздник в Рио. Валюта Европы. Узник. То же, что свеча. Священная книга. Чехол для пистолета. Город в ЮАР. "Орудие труда" Пушкина. Он же – Гоша, он же – Жора,... Серебристо белый металл. Друг Герды. Союз. Жена Одиссея. Житель европ. страны. Немецк. композитор. Напор. Х./ф. "Дэйв" (актер). Музыкальный инструмент. Река в Якутии. Героиня русских сказок. Ирина в детстве. Сов. режиссер. Супруга Ельцина. Алког. напиток. Дорожн. повозка. Отриц. частица. Баскетбольная лига. Мадам из Италии. Подруга Петьки. Характер. Снасть рыбака. Роль С.Мишулина. Первобытный бык. Еда из кипящего жира. Американский страус. Осадок на дне. Анн-... (город в США). ... Аллен. Утверждение. Жаба. Полсобаки Герасима. Американский теннисист. Знак Зодиака. Город в Казахстане.

Обьявление:
Продается бюстгальтер Ericsson с определителем номера.

anekdot.mail.ru

www.thedaily.ru СКАНВОРДЫ





# Як атрымаць добры загар?

**Да нас, фактычна, прыйшло лета, а з ім пачаўся і сезон загару. Разам з прыемнымі наступствамі адпачынку на сонцы вынікам празмернага загару, як вядома, могуць быць і злаякасныя пухліны скуры, у тым ліку сумнавядомая меланома. Медыкі ўжо доўгі час засцерагаюць людзей ад некантраляванага знаходжання пад уздзеяннем сонечных промняў.**

Напярэдадні летніх адпачынкаў і загару на берагах беларускіх азёраў і рэчак шэраг карысных парад нашым чытачам вырашылі даць і мы. Найперш кожны павінен ведаць наступныя рэчы:

**1.** Інтэнсіўнасць ультрафіялетавых промняў сонца тым большая, чым вышэй вы знаходзіцеся над узроўнем мора. Яна ўзрастае па 4 працэнты на кожныя 300 метраў вышыні.

**2.** Калі надвор'е воблачнае, інтэнсіўнасць ультрафіялету толькі на 20-30% меншая, чым у яснае надвор'е. Таму, напрыклад, інтэнсіўнасць сонечных промняў у 12 гадзін дня пры памяркоўна воблачным небе большая, чым пад ясным небам у 15 гадзін дня.

**3.** Нават калі вы знаходзіцеся ў ценю, вы зазнаяце ўздзеянне адбітага сонечнага ўльтрафіялету. Напрыклад, пясок адбівае ад 5%



да 20% сонечных промняў, трава – да 4%, марская вада – да 20%, а снег – ад 30 да 80%.

**4.** Уздзеянне сонечных промняў узмацняецца з-за дотыку некаторых раслінаў, напрыклад, пятрушкі, ад ужывання жаночых і мужчынскіх духоў і адэкалонаў, а таксама некаторых лекаў, напрыклад, сульфамідных прэпаратаў ці дыўрэтыкаў.

**5.** Купанне, пацённе і механічнае націранне, напрыклад, расціранне ручніком, уздзеянне сонечных промняў змяншае.

Навукоўцы і медыкі звяртаюць увагу на тое, што так званыя ультрафіялетавыя фільтры, якія змяшчаюць у сабе крэмы для загару, вельмі добра абараняюць цела. Яны абараняюць скуру ад апёкаў, прадухіляюць утварэнне свабодных радыкалаў, высушэнне скуры і наступнае ўтварэнне ракавых пухлінаў.

Выбіраць ахоўны сродак трэба з увагай на інтэнсіўнасць сонечных промняў, на тып вашай скуры і на даўжыню вашага знаходжання пад сонцам. Для нармальнага дарослага чалавека, без праблемаў са скурай, фільтр у крэме для загару павінен мець парадкавыя лічбы ад 10 да 20. Па меры загару велічыню так званага ахоўнага фактару крэма можна змяншаць, паколькі з загарам актывізуюцца ўласныя абарончыя сродкі арганізма. З іншага боку, трэба памятаць, што нават моцная пігментацыя ў выніку загару не з'яўляецца дастаткова добрай абаронай ад сонечнага апраменьвання. Дастаткова вялікая колькасць крэма павінна быць раўнамерна размазаная, а націранне крэмам трэба паўтараць праз кожныя дзве гадзіны знаходжання пад сонцам.

**Для таго, каб вашая скура была як найдаўжэй здаровая і прыгожая, вы павінны вытрымліваць наступныя правілы:**

**1.** Малодшых за 3 гады дзяцей не трэба падстаўляць пад адкрытыя сонечныя промні.

**2.** Пазбягайце знаходжання пад сонцам паміж 11 і 16 гадзінамі ў пару ад пачатку траўня да канца жніўня без якаснай аховы скуры, вачэй і вуснаў.

**3.** Насіце капялюшы, брылі, сонечныя акуляры, мажце вусны памадай з сонечным фільтрам.

**4.** Не забывайцеся часта піць.

**5.** Не загарайце пасля выкарыстання касметыкі або некаторых лекаў (аб гэтым трэба параіцца з лекарам).

**6.** Людзі з праблемамі скуры, такімі, напрыклад, як пігментацыя, свежыя язвы, сонечная алергія, стан пасля выдалення пухліны скуры або са шматлікімі пігментнымі радзімкамі, павінны былі б наконт загару параіцца з лекарам або проста загару пазбягаць.

*«СВ» паводле матэрыялаў друку*

Набывайце газету **«Вольнае Глыбокае»** ў кіёсках **«Саюздруку»**, у нашых распаўсюджвальнікаў, а таксама ў краме **"МКТ+"**.

**"Вольнае Глыбокае"**
**Тыднёвік паўночна-заходняй Беларусі**
**Заснавальнік:** Уладзімір Скрабатун

Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання № 1099, выдадзена Дзяржаўным камітэтам Рэспублікі Беларусь па друку 25 верасня 1998 г.

**Рэдактар і выдавец:** п.п. Уладзімір Скрабатун, пасведчанне № 390000860 ад 20. 10. 99; **тэлефон:** 2 46 14; **E-mail:** vglybokaye@irex.minsk.by

Меркаванні выдаўца і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор матэрыялаў. Спасылкі на **"Вольнае Глыбокае"** абавязковыя.

**Газета выходзіць адзін раз на тыдзень**
**Аб'ём – 2 друкаваныя аркушы**
Падпісана ў друк 21 траўня 2002 г. у 10[00]
**Наклад 1000 паасобнікаў**
Юрыдычны адрас: вул. Маскоўская, 121, г. Глыбокае.

Надрукавана ў Наваполацкай узбуйненай друкарні: г. Наваполацк, вул. Блахіна, 26 Замова 2852